Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 4 (58) Чацьвер, 29-га Студня 1925 г. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.

## Адбудова.

Нядаўна сталічныя газэты падалі вестку аб тым, што справа адбудовы зьнішчанага войнамі нашага краю пасоўваецца ўперад пакуль што ў процэсе конфэрэнцыяў аб гэтай справе п. віцэ-прэм'ера з прадстаўнікамі адпаведных галінаў адміністрацыі.

Як відаць справа гэтая сапраўды цьвёрда стала на парадку дня ўрадовых замераў і ў самым блізкім чесе пачне рэалізавацца.

Калі акінуць вокам справу адбудовы таго, што стлела ў полымі войнаў, дык у мінулым на нашых землях зроблена гэтак мала чаго, што яго і ў лік браць ня прыходзіцца.

А кожнаму ведама, з якімі трудамі беларускае насяленьне пачынала саматугам, блізу што ад першага кала ў плоце, адбудоўваць тое, што было ім страчана падчас уцекачоўства. Абавязкам дзяржаўнае ўлады даўно зьяўляецца крэдытная падмога, каб згалелае беларускае сялянства, якое вярнулася з уцекачоўства, паднялося на ногі гаспадарча і магло лягчэй выпаўняць нялёгкія цяпер падатковыя павіннасьці.

Сумна й балюча прыходзіцца спомніць, што ў мінулым Польскі Урад ня толькі ня цікавіўся эканамічным лёсам беларускага насяленьня разам з усімі гэтак празванымі „Усходнямі Землямі“, а навет гэткімі мерамі, як асадніцтва, на гэтых землях заварыў тую кашу, якую ў працягу гадоў трудна будзе расхлёбаць. У той час, як колёнізацыя нашых земляў польскім нацыянальным элемэнтам каштавала скарбу нямала, беларускі селянін-уцякач бязніякай дзяржаўнай падмогі мусіў адбудоўвацца сам сабою.

Калі саматужнае направаўляньне сялянскіх гаспадарак і дало такі-сякі рэзультат у кірунку да лепшага, дык цяперашні санацыйны падатковы цяжар значна затрудніў далейшы поступ і так тугога разьвіцьця сялянскае гаспадаркі, на якой яшчэ ёсьць нязьлічаная моц незагоеных ранаў.

Сыстэматызацыя падаткаў, пасільнае зьбіраньне іх з насяленьня, безадкладнае правядзеньне зямельнай рэформы значна палепшыць агульны эканамічны стан тых згалелых за вайну масаў, якія зруйнаваліся за час войнаў не па сваёй віне.

Кожная разумная мера ўраду падніме энэргію насяленьня да самаадбудаваньня, кожная дзяржаўная падмога ў кароткі час сябе апраўдае. І з гэткімі набалеўшымі мерамі эканамічнага характару далей марудзіць нельга, бо эканамічная адбудова краю зробіць вялізарны ўплыў і на агульнае аздараўленьне тутэйшых адносін.

Да адбудоўчае працы павінны быць уцягнены ўсе мясцовыя сілы і разам з мерамі характару эканамічнага павінна йсьці й тое аздараўленьне адміністрацыі, якое дасюль выклікала гэтульki добрых пажаданьняў і доўгіх гутарак.

А да ўсяго патрэбны, абварункованы констытуцыйным законам, дэмакратычны самаўрад, які ў нармальных варунках заўсёды патрапіць быць творчым кіраўніком гаспадарчых справаў краю.

## Палітычны агляд.

Апошні час ад'значыўся цэлым радам буйных палітычных падзеяў, якія зробяць свой ўплыў на далейшы уклад узаемаадносін эўропэйскіх і навет не-эўропэйскіх народаў. Да гэткіх падзеяў, паводлуг пары, ў якую яны адбыліся, адносяцца: перамога левага крыла **індускіх** нацыяналістых над правымі, адстаўка **амэрыканскага** статс-сэкрэтара (міністра) заграцічных справаў Юза, стварэньне ў **Нямеччыне** правага кабінэту Лютэра, **польска-гданскі** конфлікт, конфэрэнцыя ў **Гэльсінгфорсе** і над'звычайная нарада ў **Маскве**.

З 350-мільённага насяленьня Індыі, гэтае «жамчужыны» ангельскае кароны, самую ваяўнічую частку складаюць магамэтане, на чале якіх да сёлетняга году стаяў Ганді. Ен быў ня толькі палітычным павадыром індускіх мусульман, што складаюць больш як 70 мільёнаў душ, але лічыўся таксама за прарока. Ён цалком уладаў розумам і сэрцамі мусульманскіх, страшэнна фанатычных масаў, якія мог скіраваць куды толькі хацеў. А ў адносінах да ангельцаў, якія пануюць у Індыі, ён быў настроены вельмі міралюбна. Да апошняе сусьветнае вайны, на якой было больш як мільён індускага войска на эўропэйскім і азіяцкім тэатры ваенных дзеяў, ён навет лічыўся за прыяцеля ангельцаў. І толькі пасьля вайны ён пачаў пропагаваць палітыку пасыўнага спраціўленьня ў адносінах да Англіі, якая крылася ў тым, што індусы, не падымаючы адкрытага паўстаньня (Ганді быў староньнікам навукі Хрыста і Льва Толстога, а значыцца — праціўнікам рэвалюцыі і праліцьця крыві), адмаўляліся плаціць падаткі, байкатавалі ангельскія тавары і ангельскія ўлады. Пэўна-ж, ангельцы былі нездаволены навет і гэтаю формаю барацьбы індусаў, ад якое моцна цярпелі іхнія эканамічныя інтарэсы і ўрэшце ўсяго арыштавалі Ганді, а суд засудзіў яго на некалькі гадоў вастрогу. Але Ганді, навет ідучы ў вастрог, прасіў сваіх староньнікаў не падымаць збройнага паўстаньня і вясьці далей яго палітыку пасыўнага спраціўленьня, пакуль ангельскае панаваньне ня счэзьне само сабою. Ганді быў хутка выпушчаны з вастрогу. Бальшавікі ўвесь час сталіся схіліць яго на шлях рэвалюцыйных дзеяў, але дарэмна, хаця ён перапісваўся з Леніным. Ганді, да самага апошняга часу застаўся верным сваёй палітыцы і стрымліваў індускіх мусульман, сярод якіх моцна расьце нездаволеньне проці Англіі. Опозыцыя проці Ганді, стаяўшая за рэвалюцыйны характар дзеяў проці ангельскага панаваньня, расла штодня, пакуль на апошнім конгрэсе індускіх нацыяналістых не ўзяла гары. Гэткім чынам, затрыумфавалі левыя на чале са сваім кіраўніком Дасам, якія пропагуюць рэвалюцыйную тактыку і Ганді павінен зыйсьці са сцэны. Цяпер для Англіі пачынаецца ў Індыі эпоха цяжкае пробы. Ей прыдзецца мець справу з сотнямі мільёнаў рэвалюцыйна настроеных індусаў, якія не адмовяцца ад падмогаў бальшавікоў.

Каб аценіць значэньне адстаўкі амэрыканскага статс-сэкрэтара па заграцічных справах, Юза, трэба збольшага пазнаёміцца з асаблівасьцямі констытуцыі Злучаных Штатаў і з асобаю, як самога Юза, так і яго наступніка Кэлёга. Найбольшыя, блізу што неабмяжованыя правы ў Амэрыцы мае прэзыдэнт рэспублікі. Пасьля выбараў яго, прэзыдэнт сам падбірае сабе статс-сэкрэтароў (тое, што ў іншых дзяржавах міністры) ў ліку 10. Пэрыяд поўнамоцтваў міністра гэткі самы, як і прэзыдэнта. Міністры залежаць толькі ад прэзыдэнта, які і можа звальняць іх у адстаўку. А конгрэс (ніжняя палата) і сэнат (верхняя палата) могуць толькі крытыкаваць дзеяньні статс-сэкрэтароў і даваць ім парады, якія тых ні да чаго не абавязваюць. Цяперашні кабінэт Злучаных Штатаў, у склад якога ўваходзіў і Юз, быў зложаны яшчэ прэзыдэнтам Гардінгам і перайшоў да Куліджа ў парадку спадчыны, дзеля таго, што сам Кулідж заняў пасьля сьмерці Гардінга пасаду прэзыдэнта, як віцэ-прэзыдэнт. Затым Кулідж быў выбраны прэзыдэнтам на новыя 4 гады, а старыя поўнамоцтвы канчаюцца 4-га сакавіка. У гэты дзень павінен будзе пайсьці ў адстаўку і ўвесь склад статс-сэкрэтароў. Але Юз выйшаў, не дачакаўшыся гэтага сроку, пасьля 4-хгодняга бесьперарыўнага прабываньня на сваёй пасадзе. Ён ад'значыўся вялікай самастойнасьцю і стойкасьцю сваіх пераканаўняў. Ад пачатку й да канца ён быў непрымірымым ворагам бальшавікоў і ні за што не хацеў іх прызнаваць. Тымчасам у нашыя дні, як вядома, ў рэшце ўсяго акалічнага сьвету зьмяніліся адносіны да радавага ўраду, які прызнала Італія, Англія, Францыя, Нямеччына, Кітайшчына і ў хуткім часе здаецца, што прызнае й Японія. Ведама, што пры гэткім палажэньні Амэрыка не магла астацца ў адзіноце, маючы на ўвазе, што ў С. С. Р. Р. ёсьць яе капіталы і што яна вельмі зацікаўлена лёсам савецкіх нэфтавых крыніцаў, якія зьяўляюцца найбольшым вабікам для дзяржаваў з моцна разьвітаю прамысловасьцю. На амэрыканскі ўрад у леташнім годзе быў роблены вельмі моцны націск з боку рабочых і значнае часьці прамыслова-капіталістычных кругоў з мэтаю прымусіць прызнаць радавы ўрад. Пакуль старшынёю сэнацкае камісіі па заграцічных справах, якая мае некаторы моральны ўплыў на статс-сэкрэтара заграцічных справаў, быў прыяцель Юза, сэнатар Лёдж, дык Юз мог удачна адбіваць усе гэтыя атакі з боку. А калі месца памёршага Лёджа заняў сэнатар Бора, які зьяўляецца самым моцным староньнікам прызнаньня радавага ўраду і дыплёматычных зносін з С. С. Р. Р., дык Юз ня мог болей вясьці далей сваю ранейшую палітыку ў адносінах да бальшавікоў і, маючы стойкі і нязьменчывы характар, палічыў за

лепшае пайсьці ў адстаўку, не чакаючы канца сроку сваіх поўнамоцтваў. На яго месца назначаны бышшы амэрыканскі пасол у Лёндане, Кэлёг, асабісты прыяцель як прэзыдэнта Куліджа, так і сэнатара Боры. Кэлёг добра знаёмы з цяперашнім палажэньнем Заходняй Эўропы, таму што быў у характары амэрыканскага наглядчыка на Лёнданскай, Жэнэўскай і, нядаўна толькі скончанай, Парыскай конфэрэнцыі міністраў фінансаў саюзных дзяржаваў, адкуль і быў выкліканы ў Вашынгтон. Але ён не ад'значаецца тою самастойнасьцю і цьвёрдасьцю характару, якую меў Юз. Гавораць, што новы статс-сэкрэтар па загранічных справах Кэлёг будзе цалком пад уплывам сэнатара Боры. Гэткім чынам, пасьля адстаўкі Юза, трэба чакаць новага павароту ў амэрыканскай загранічнай палітыцы, якая пайдзе па тым кірунку, які накрэсьліць старшыня сэнацкае камісіі па загранічных справах, сэнатар Бора, г. знач. трэба чакаць хуткага прызнаньня радавага ўраду і адпаведнае зьмены адносін Амэрыкі да Заходн. Эўропы, Кітайшчыны і Японіі.

*N.*

---

# Праваслаўе у Беларусі.

Царская Расея пакінула нам, як спадчыну, кадры праваслаўных духоўнікаў, якія ў свой час, будучы вураднікамі б. Расейскай Імпэрыі, займаліся, амаль што ня ўсе, русыфікатарскаю працаю сярод беларускага насяленьня.

Цяпер, воляю лёсу праваслаўнае духавенства пастаўлена ў залежнасьць ад гэтага самага народу і яно ня можа запомніць, чым было пры цару, ня можа пазбавіцца думкі, што праваслаўны сьвяшчэньнік — гэта прадстаўнік „расейскага“ народу ў нашым краі.

Другі такі айцец духоўны, пражыўшы на Беларусі каля 20, а то і больш гадоў, не парупіўся навучыцца народнай мовы і зьвяртаецца да народу, як у штодзеннам жыцьці, так і пры пропаведзях заўсёды парасейску. Гэта — чужы чалавек на вёсцы сярод беларускага насяленьня. Супольнага жыцьця, жыцьця душа ў душу паміж народам і духавенствам няма. І вось часта чуваць нараканьні з боку айцоў духоўных на „оскудѣніе вѣры“. Ясна, што народ, зьвязаны з сваім духоўным правадыром аднэй толькі рэлігіяй, ня можа і ня хоча падтрымліваць духавенства, а часта навет бывае і опозыцыйна настроены да свайго сьвяшчэньніка.

Сярод праваслаўных пачынаюць мець уплывы каталіцкія ксяндзы, а асабліва там, дзе ксяндзом—беларус. Процант пераходу ў каталіцтва з кожным годам павялічваецца.

Апрача каталіцтва маюць уплывы на народ баптыстыя, мэтодыстыя і інш. сэктанты, якія патрапілі падыйсьці да душы беларускага селяніна, і ў якіх селянін чуе „сваіх“, а ня чужых людзей.

Можна сьмела сказаць, што праваслаўе істнуе сярод беларускага народу цяпер толькі па традыцыі, што народ адвеку прывык быць праваслаўным.

Самы зацікаўлены элемэнт, каб утрымаць праваслаўе сярод беларускага народу—праваслаўнае духавенства,—робіць усё, каб аслабіць праваслаўе.

Як ужо раней мы падкрэсьлівалі, па глыбокаму пераконаньню айцоў духоўных, праваслаўе—гэта вера *русская*, і праваслаўнае насяленьне тут у нас на Беларусі—русское. Беларускасьць яны лічаць модным веяньнем і глыбока пераконаны, што калі-б уваскросла „единая недѣлимая“, то беларускасьці ня было-б.

Гэты тэзыс праводзіцца ў жыцьцё: духоўная сэмінарыя ў Вільні, якая павінна даць сьвяшчэньнікаў для Заходняй Беларусі, ўвесь час вяла выкладаньне парасейску; і калі ў канцы канцоў жыцьцё змушае адмовіцца ад расейскай мовы,—ўведзена, як выкладовая мова ў ніжэйшых клясах — польская. Беларусазнаўства ў сэмінарыі амаль што няма.

Цікава, што русыфікаваньне сэмінарыі пачаў сэнатар, выбраньнік беларускага народу п. Вечаслаў Багдановіч, а спалянізаваньне *русскій*—архімандрыт *Філіпп Моровов*.

Духавенства ў жыцьці народу заўсёды адыгрывала вялікую ролю. Каталіцкія ксяндзы-палякі заўсёды сьмела бароліся за ідэалы свайго народу, і шмат хто з іх быў змушаны канчаць сваё жыцьцё ў далёкай Сыбіры.

Трэба аддаць справядлівасьць, што сярод ксяндзоў-беларусаў шмат патрыётаў, адданых свайму народу. У адраджэнскім руху нашыя ксяндзы адыгралі немалую ролю.

Нам, беларусам, трэба мець сваё беларускае праваслаўнае духавенства.

Трэба, каб селянін у сьвяшчэньніку свайго прыходу бачыў „свайго“, каб ён яму верыў. Такі сьвяшчэньнік бязумоўна можа мець вялікія ўплывы на сваіх прыхаджан. Цяпер, калі з Усходу вядзецца агітацыя, калі гэтая агітацыя мае на мэце здэмаралізоваць народ — абсолютна важна мець на мясцох здаровыя нацыянальныя сілы, якія маглі-б паралізаваць гэтую агітацыю, выстаўляючы як контр-агітацыю тэзыс здаровага нацыяналізму і здаровай моралі.

Усё гэта магчыма, калі на вёсцы будзе сядзець сьвяшчэньнік-беларус, адданы на служэньне свайму народу.

Сярод праваслаўных сьвяшчэньнікаў можа-б і знайшлося некалькі такіх, якія разумеюць, што яны косьць ад косьці сыны беларускага народу, але заявіць аб гэтым голасна баяцца, бо старшыя іерархі, іхняе начальства — гэта элемэнт усё расейскі, які беларускасьці не прызнае, і такому сьвяшчэньніку-беларусу грaзіць папасьці ў апалу.

Трэба беларусізаваць праваслаўнае духавенства зьверху.

Нам патрэбна, каб епіскапы і другія духоўныя, якія стаяць на чале, абавязкова былі беларусамі, каб гэты „русскій дух“ раз назаўсёды выдаліць з розных духоўных інстытуцыяў.

Духоўная сэмінарыя ў Вільні, якая мае на мэце. выхоўваць духоўных, будучых сьвяшчэньнікаў на абшарах Беларусі, павінна быць беларускай. Увесь русыфікатарскі элемэнт, які цяпер вядзе да ўпадку праваслаўя ў нашым краі, павінен быць выдалены.

Беларускаму народу пара мець сваё роднае беларускае духавенства, якое йшло-б з ім рука аб руку, якое памагло-б яму ў будуваньні свае роднае культуры і асягненьні сваіх вышэйшых нацыянальных ідэалаў.

**У. Більдзюкевіч.**

---

# Палітычная хроніка.

### У Польшчы.

На паседжаньні бюд'жэтнае камісіі Сойму 26. I. падчас дыскусіі над бюд'жэтам міністэрства скарбу пасол Васынчук ад імя Украінскага Клюбу заявіў, што яго клюб будзе галасаваць проці бюд'жэту.

У нядзелю 25 студня памёр віцэ-маршалак Сойму п. Зыгмунт Сэйда. На яго месца паслом у Сойм уваходзіць з дзяржаўнага сьпіску сябра Народна-Нацыянальнага Саюзу (Związek Ludowo-Narodowy) Станісл. Ясюковіч, бышшы пасол Устаноўчага Сойму.

У мінулы чацьвер (22 студня) у Львове арыштованы Глазэрман, Мінка, інж. Карнабэр, бышшы паліцэйскі агент Дварніцкі і нейкі Мікіцін і Егер. Апошні быў арыштованы ў Варшаве. Арышты гэтыя зрабілі на насяленьне моцнае ўражаньне, таму што яны маюць сувязь з замахам на Прэзыдэнта Польскае Рэспублікі падчас яго пабыту ў Львове.

### За граніцай.

З **Вэнгрыі** паведамляюць што, там прабывае эрцгэрцог Максімільян Габсбург, які вядзе перагаворы з вэнгерскімі монархістымі па пытаньню аб правох на вэнгерскі пасад сына Каруся Оттона. У **Вене** адначасна прабывае эрцгэрцог Леапольд Сальватар, які таксама заняты справай павароту на вэнгерскі пасад Габсбургаў і злучэньнем **Аўстрыі** з Вэнгрыяй. Аўстрыяцкі ўрад на запрос у парлямэнце адказаў, што эрцгэрц. Леапольд адтрымаў пазваленьне быць у Вене толькі 4 тыдні.

З **Парыжу** паведамляюць што **гішпанцы** ізноў пацярпелі паражэньне падчас наступу проці племя анджэраў недалёка ад **Танжэру (ў Мароко)**. З 500 чалавек Гішпанцаў вярнулася жывымі толькі 200.

У **Італіі** вядомы пісьменьнік д' Анунцыё адтрымаў у Рыме ў награду вільлю Фальконьеры, якая была раней уласнасьцю нямецкага імпэратара і сконфіскована італьянскім урадам падчас вайны.

У **Швэцыі** падаўся ў адстаўку прэм'ер-міністар Брантінг з прычыны хваробы.

З **Масквы** паведамляюць аб сьмерці гэнэрала Курапаткіна, які быў галоўным камандзерам расейскае арміі падчас расейска-японскае вайны.

З **Рыму** тэлеграфуюць аб завастрэньні конфлікту, паміж **Аргэнтынай** і **Ватыканам** па пытаньню аб адазваньні папскага нунцыя, чаго дамагаецца ўрад Аргэнтыны.

У **Прусіі** падаўся ў адстаўку ўрад. Сэньёрэн-конвэнт прускага ляндтагу (парлямэнт) склікаў паседжаньне на 30 студня, калі мае быць сфармованы новы ўрад.

Францускі пасол у С. С. Р. Р. Эрбэт, прыехаўшы ў **Маскву** перадаў камісару загранічных справаў ноту, ў якой ёсьць сьпісак рэчаў, украдзеных з францускага пасольства з паведамленьнем, што згодна з паказаньнем францускае прыслугі, рэчы гэтыя ўзяты асобамі, меўшымі пропускі з подпісам прэзэса Камуністычнага Інтэрнацыяналу Зіноўева.

---

**ГЭНРЫХ СЕНКЕВІЧ.**

# ЛЯТАРНІК.

(*Пераклад з польскага*).

(*Глядзі № 3 (57) „Грам. Голасу“*).

Вось ён мог на гэтай скале сьмяяцца з свае даўнішняе жыцьцёвае вандроўкі, даўнішніх няшчасьцяў і няўдачаў. Ен запраўды быў, як карабель, якому бура ламае мачты, рвець шнуры і парусы, які кідае ад хмараў на дно мора, б'ець хваляй, плюе пенай — які аднак апынуўся ў порце. Абразы гэтай буры цяпер хутка праляталі ў яго думках, як контраст з гэтай ціхай будучынай, якая мела пачацца. Частку сваіх дзіўных здарэньняў сам расказаў Фальконбрайджу, але не ўспамянуў аб тысячах іншых падзеяў. Ен меў гэткае няшчасьце, што, як толькі разьбіваў свой шацёр і распальваў вогнішча, каб заснавацца назаўсёды, нейкі віхор вырываў колачкі шатра, раскідаў вогнішча, а яго самога нёс на загубу. Гледзячы цяпер з маячнага балькону на асьветленыя хвалі, ўспамінаў усё перажытае. Вось ён ваяваў у чатырох частках сьвету — і на чужыне прабаваў амаль што ня ўсіх прафэсіяў. Ен быў працавіты і чэсны, яму няраз удавалася сабраць крыху грошай, і заўсёды траціў іх непрадбачана, ня гледзячы на асьцярожнасьць. Быў золатакопам у Аўстраліі, шукаў дыямэнтаў у Афрыцы, быў урадовым стральцом ува Усходняй Індыі. Калі адзін раз заснаваў у Каліфорніі фэрму, яго пагубіла засуха; прабаваў гандляваць з дзікімі плямёнамі, жыўшымі ў глыбі Бразыліі, яго плыты разьбіліся на Амазонцы, а ён сам безбаронны і амаль што ня голы туляўся па лясох праз колькі тыдняў, карміўшыся дзікімі фруктамі, могучы кожную часіну згінуць у капцюрох дзікіх зьвяроў. Заснаваў кавальскую майстроўню ў Гэлене, у Арканзасе — і яна згарэла ў вялікім пажары ўсяго гораду. Пасьля ў скалістых горах папаў у рукі Індзейцаў і быў выратаваны Канадзкімі стральцамі. Служыў матросам на параходзе, курсаваўшым між Багіяй і Бордо, пасьля паляваў на кітоў: абодва параходы разьбіліся. Меў фабрыку цыгараў у Гаваньне і — абакраў яго ягоны кампаньён у той мамэнт, як ён ляжаў хворы на «vomito». Урэшце дабраўся да Аспайнвэль — і тут ужо меўся быць канец ягоных няўдачаў. Бо што-ж яшчэ магло з ім здарыцца на гэтым скалістым вастраўку? Не кране яго ні агонь, ні вада, ні людзі. Хаця ад людзей Скавінскі няшмат зла спазнаў. Часьцей ён спатыкаў людзей добрых, чымся ліхіх.

Але здавалася, што зьдзекуюцца над ім усе чатыры стыхіі. Тыя, хто яго знаў, казалі, што ён ня мае шчасьця, і гэтак усё тлумачылі. Ен сам навет зрабіўся крышку маніякам. Ен верыў, што нейкая магутная, памстуючая рука дасягае яго ўсюды, на ўсіх землях і водах. Ня любіў, аднак жа казаць аб гэтым; толькі часам, калі яго пыталіся, чыя гэта рука, загадачна паказваў на палярную зару і казаў, што яна йдзе адтуль... Узапраўды, ягоныя няўдачы былі гэтак заўсёдныя, што аж дзіўна было, і лёгка маглі ўсё перавярнуць у галаве, асабліва таму, хто іх перажываў. Але ён меў цярплівасьць Індзейца і вялізную моц спраціўленьня, якая плыве з чыстаты сэрца. Калісьці ў Вэнгрыі парнулі яго колькі разоў штыхом, бо не хацеў схапіцца за стрэмя, на якое яму паказвалі, як на спосаб ратунку і крычаць: «pardon». Гэтак сама не здаваўся і ў няшчасьці. Лез на гару працавіта, як мурашка. Сьпіхнуты ўніз, пачынаў сваю падарожу ў соты раз. Гэта быў нейкі асабліва дзіўны чалавек. Гэты стары жаўнер, апечаны няма ведама ў якіх агнёх, узмацованы ў бядзе, біты і колаты, меў сэрца дзіцяці. У часы эпідэміі на Кубе, захварэў, дзеля таго, што аддаў хворым усю сваю

# Агляд прэсы.

Украінская газэта „Дзвін" піша:

Апошнія дні мінулага тыдня далі багата вестак у справе аздараўленьня адносін на Усходніх Землях. Робіцца ясным, што ўрад нарэшце скрануўся з месца.

Украінская Народная Партыя зрабіла ўсе захады, каб прадставіць ураду агульны стан Усходніх Земляў, паставіла конкрэтныя прапазыцыі на найбліжэйшы парадак дня, якія ў практычным жыцьці далі-б позытыўныя рэзультаты.

Высылаючы свайго дэлегата ў Варшаву дзеля паразуменьня з Урадам, Укр. Нар. Партыя паставіла ясна сформулованыя пастановы партыйнай конфэрэнцыі з 23-XI 1924 г. як мінімум нашых дамаганьняў і прынцыпова падкрэсьліла, што ўдача або няўдача справы аздараўленьня адносін на Усходніх Землях, залежыць ад пастановы Цэнтральнага Ураду.

З нашага практычнага погляду Урад, падходзячы да гэтай справы павінен усьведаміць сабе вось што:

Усе пастановы і загады датычна пытаньня аб аздараўленьні адносін на Усходніх Землях, — паскольскі будуць праводзіцца пры ўчасьці палітычна-грамадзкіх арганізацыяў, з імі і праз іх, як з грамадзка-палітычнаю рэпрэзэнтацыяй краю,—могуць дайсьці да свае мэты і стацца фактам дзеля гэткіх прычын: перш-на-перш толькі палітычна-грамадзкая арганізацыя найляпей ведае балячкі свайго народу; будзе стаяць на варце пастановаў і сваім аўторытэтам або пашыраць законы ў масах і пасоўваць іх, як кіраўнічая грамадзянская ўстанова; па другое—палітычна-грамадзкія арганізацыі зьяўляюцца пасрэднікам між урадам і шырокімі масамі нашага народу, з аднаго і з другога боку павінны вясьці да паразуменьня і асабліва датычна вымогаў народных масаў крышталізаваць іх дамаганьні, па трецяе—толькі грамадзка-палітычныя арганізацыі могуць вытварыць той грамадзкі лад, які патрэбны ў нас на Усходніх Землях, а без якога нельга думаць аб увядзеньні нейкага ладу.

Бо як-ніяк, але, каб сама адміністрацыя папяровымі загадамі увяла лад і на падставе законаў стварыла патрэбны дзеля гэтага status quo на Усходніх Землях, было-б наіўна думаць і ўсе законы ды загады засталіся-б толькі на паперы.

Пры гэтай сыстэме нічога на Усходніх Землях не зьмянілася-б, і можна сьмела сказаць, што справа аздараўленьня Усходніх Земляў выглядала-б безнадзейна.

Фактаў дзеля гэтага, пачынаючы ад пытаньня аб царкве, школе, самаўрадаваньні, зямельным пытаньні, эканамічным і г. п. — у практычным жыцьці украінскага народу на Усходніх Землях ёсьць даволі.

Далей газэта інформуе сваіх чытачоў аб конфэрэнцыі Старшыні Укр. Нар. Парт. п. Оскілко з віцэ-прэм'ерам п. Тугутам, якая адбылася ў Варшаве 16. I. 1925 г.

П. віцэ-прэм'ер дакляраваў ад імя ўраду заняцца рашуча правядзеньнем у жыцьцё языковага школьнага закону за 31 ліпня 1924 г., як і іншых языковых законаў. Паміж іншым было сказана п. Тугутам, што інстытут школьных *візытатараў і заступнікаў школьных інспэктароў-украінцаў будзе уведзены якнайхутчэй.* У далейшым была гутарка аб правох дзяржаўнай прыналежнасьці (obywatelstwo), самаўрадзе, зямельнай рэформе, правох публічнасьці для Крэмянецкае Украінск. Гімназіі, адбудове, коопэрацыі, дапамозе сельскай гаспадарцы, эканамічным і культурна-прасьветным арганізацыям і інш.

## Навіны ў тры радкі.

— Паводлуг вестак з Петраграду 26-I ў Маскве быў зроблены замах на патрыярха Ціхана.

— Вярхоўны трыбунал у Аўстрыі павялічыў кару вінаватаму ў замаху на б. канцлера Зэйпэля, Карусю Яворку з $3^1/_2$ г. катаргі на 5 гадоў.

— Як паведамляюць з Масквы, Троцкі запратэставаў проці пастановы аб ім радавага ўраду.

— Бываўшы ангельскі прэм'ер-міністар Асквіт адтрымаў званьне пэра і будзе насіць тытул графа Оксфордзкага.

— Перад ратушай у партугальскай сталіцы, Лісабоне кінена бомба, якая раніла двух чалавек, ехаўшых трамваем.

— Па ведамасьцях цэнтр. статыст. бюра ў Маскве ёсьць цяпер 240 тысяч савецкіх служачых, з іх 128.148 камуністых. Пэнсія сав. служ. ад 43 да 123 руб. ў месяц.

— Тыдзень назад каля берагоў Голяндыі панавала страшэнна густая імгла. Ніводзін карабель ня мог увайсьці ў амстэрдамскі порт.

— З Масквы надыйшла вестка аб галодных бунтах у Крыме і Украіне.

— Манджурскі дыктатар Чан-Со-Лін у дзень угодкаў сьмерці Леніна прыслаў Чычэрыну тэлеграму, тытулуючы, як яго, так і Леніна „превосходительством".

— У паўночна-заходняй часьці Аўстраліі гуляе шалёны цыклён, які нарабіў шкоды на 100 тыс. фунтаў.

— У Чэхаславакіі ў м. Кунове 20-I і ў наступныя дні адчувалася землятрасеньне.

— З Клайпэды паведамляюць, што паліцыя 26-I разганяла безработных, якія сабраліся перад магістратам, трэбуючы працы.

— У Лёндане 26 I ўрачыста сьвяткаваліся 137 ўгодкі ўваходу Аўстраліі ў склад Брытанскае імпэрыі.

## У С.С.Р.Р.

### Адстаўка Троцкага.

„Роста" паведамляе:

„На агульным паседжаньні цэнтральнага камітэту і цэнтральнай кантрольнай камісіі камуністычнае партыі было разгледжана пытаньне аб рэзалюцыях партыйных арганізацыяў датычна Троцкага. Прычынаю для гэтага паслужыў характар дзеяньняў Троцкага. Было агалошана пісьмо Троцкага, ў якім ён заяўляе; што яго хвароба перашкодзіла яму зьявіцца на паседжаньне і што яго маўчаньне было выклікана жаданьнем захоўваць інтарэсы партыі. Далей Троцкі ў сваім пісьме выказваецца проці абвінавачаньняў у тым, быццам ён імкнецца падвясьці ленінізм пад перагляд і быццам ён пэсымістычна глядзіць на лёс социялістычнага будаўніцтва. Троцкі прызнае, што ня гледзячы на тое, што С.С.Р.Р. абкружаны капіталістычнымі дзяржавамі, эканамічныя і палітычныя рэсурсы. радавае ўлады вельмі вялікія. Ен не чакаў, што яго кніга „Уроки октября", выклікаўшая гэтую полеміку, паслужыць прычынай дзеля абвінавачаньняў. Ен ня імкнецца да якога-нібудзь выняткавага палажэньня ў партыі і не адмаўляецца пакарыцца партыйнай дысцыпліне ці спаўняць даручэньні партыі. Наадварот, ён заяўляе катэгорычна, што ён гатоў споўніць усякую работу на ўсялякім пасту ці без якога-нібудзь паста пад якім хаця партыйным кантролем. Пры ствараўшымся палажэньні неабходна яго незабаўнае звальненьне з пасады старшыні рэвалюцыйнае ваеннае рады СССР.

Пасьля гэтага цэнтральны выканаўчы камітэт усімі галасамі проці двух і цэнтральная кантрольная камісія аднагалосна пры двух устрымаўшыхся пастанавілі:

1) зрабіць Троцкаму катэгорычную перасьцярогу з паказаньнем па тое, што неабходна падтрыманьне партыйнае дысцыпліны ня толькі на словах, але й на дзеле;

2) звольніць Троцкага з яго пасады і прызнаць немагчымым яго далейшую працу ў ваенна-рэвалюцыйнай радзе, дзеля таго, што кіраваньне арміяй вымагае падтрыманьня аўторытэту ўсяе партыі. Пры гэтым была ўзята пад увагу й заява Троцкага аб неабходнасьці яго звальненьня.

3) адлажыць вырашэньне пытаньня аб далейшай працы Троцкага ў цэнтральным камітэце да бліжэйшага зьезду партыі. Аднак-жа Троцкаму павінна быць паведамлена, што, ў выпадку яго спробы нарушыць пастановы партыі ці пакінуць іх без спаўненьня, цэнтральны камітэт будзе змушаны, не чакаючы зьезду, прызнаць немагчымым далейшае прабываньне Троцкага ў камітэце партыі і запрапанаваць яго ўхіленьне ад працы ў цэнтральным камітэце.

У мотывіроўцы рэзалюцыі гаворыцца аб тым, што неаднаразовыя выступленьні Троцкага проці бальшавізму змушаюць партыю, абавязаную сваімі ўдачамі жалезнай дысцыпліне, скончыць раз назаўсёды з гэткімі выступленьнямі. Якраз у цяперашні момэнт няправільная проціленінская ацэнка ролі сялянства ў рэвалюцыі асабліва небясьпечна, дзеля таго, што партыя імкнецца да змычкі гарадзкое прамысловасьці з сялянствам, да прыцягненьня шырокіх сялянскіх масаў, да зьменшаньня падаткаў і адбудовы сельскае гаспадаркі і прымае іншыя меры, служачыя працягам палітыкі Леніна. Чырвоная армія і флёт павінны быць узорам дысцыпліны й солідарнасьці паміж сялянствам і рабочымі. Тымчасам цяпер армія і флёт бачаць саўсім процілежнае. Да таго-ж Троцкі ня прызнаў у пісьме сваіх памылак і не пакінуў свае процібальшавіцкае пазыцыі, а наадварот абмежаваўся выражэньнем фармальнае лёяльнасьці".

З усяго гэтага відаць, што развал у быўшай дасюль моцнаю бальшавіцкай партыі ўжо пачаўся не па жарт, яна дакацілася да пераломy, калі дзеячы рэвалюцыі пачнуць між сабою ўнутраную барацьбу, рыхтуючы гэтым непрадбачаныя нікім падзеі ў С.С.Р.Р.

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

# Тутэйшая хроніка.

═ **У Час. Белар. Радзе.** На паседжані прэзыдыуму Часовай Беларускай Рады было пастаўлена пытаньне аб лідэрстве. Вынесена пастанова, што сябры прэзыдыуму на сваю асабістую адказнасьць ніякіх выступленьняў ня маюць права рабіць і ўсе аднолькава адпавядаюць перад Радай.

═ **Віленскі Беларускі Клюб.** 26 студня адбыўся арганізацыйны агульны сход новага Віленскага Беларускага Клюбу, на якім ухвалены бюд'жэт на 1925 год і выбрана Рада Старшыняў, Прэзэсам якой выбраны п. У. Більзюкевіч.

═ **„Санацыя" крэсаў на чугунцы.** Прэзэс Віленскай Дырэкцыі Польскіх Дзяржаўных Чугунак, праводзячы рэдукцыю пэрсоналу перад усім паэвальняў праваслаўных, у тым ліку шмат беларусаў.

═ **Урадовае паведамленьне.** Камісар Ураду на м. Вільню падае да агульнага ведама, што ў найбліжэйшым часе ў Вільні адбудуцца 3 пробныя трывогі, загаданыя ваеннымі ўладамі. Трывогі гэтыя пачнуцца ад 3-х гарматных стрэлаў у раёне Рафалаўскіх казармаў на Вількамірскай вуліцы, а таксама ад сыгналу „трывога", які будуць іграць на вуліцах гораду трубачы.

Жыхары места заклікаюцца да захаваньня поўнага спакою.

## Паштовая скрынка.

**Зэрва, Губарэвіч, М. Карунос, А. Каспэр.** Пісьмы адтр., газэта высылаецца.

**Шкодзічу.** Пісьмо адтрымалі, газэту высылаем.

Украінскаму Музэю ў Тарнове. Патрэбныя №№ высылаем.

**Лабачу** ў Амэрыцы. Газэту па паданы Вамі адрэс высылаем.

**К. Канапацкаму.** Календары высылаем. Календар каштуе 1 зл. 25 гр., перасылка 15 гр. Іншыя кніжкі трэба выпісваць з Беларускай Кнігарні, Wilno, Zawalna 7.

**Х. Шыбуту.** Газ. высылаем; спраўдзьце на пошце.

Дыякапу **Адэльскаму.** Пісьмо адтрымалі, газэту высылаем.



Рэдактар-Выдавец **Язэп Салавей**

Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф № 203.